# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г.

Чацвер, 14 ліпеня 1994 года | № 73 (10773) | Цана 200 руб.


## "Народ зрабіў выбар"

### *Заява Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*

10 ліпеня 1994 года народ зрабіў выбар, даверыўшы свой лёс на выбарах першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку. Для мяне асабіста гэта не толькі выражэнне народнага даверу, але і найвялікшая адказнасць перад грамадзянамі Беларусі. Дзякую выбаршчыкам і спадзяюся, што сваёй працай мне ўдасца апраўдаць іх выбар.

Разумею, што выбары Прэзідэнта ў краіне — заснавальніцы ААН і наследніцы ядзернага статуса Савецкага Саюза не могуць пакінуць раўнадушнымі сусветнае супольніцтва. Вось чаму лічу неабходным спыніцца на наступным.

У знешняй палітыцы дзейнасць Прэзідэнта будзе абумоўлена перш за ўсё нашымі эканамічнымі інтарэсамі, якія заключаюцца ў аднаўленні эканамічных сувязей з Расіяй і іншымі краінамі СНД, прыцягненні замежных інвестыцый, ператварэнні Беларусі ў паўнапраўнага суб'екта сусветнай эканамічнай сістэмы.

Беларусь упершыню ў свеце адмовілася ад магчымасці рэальнага валодання ядзернай зброяй. Пацвярджаю імкненне маёй краіны выканаць узятыя ёю абавязацельствы ў адпаведнасці з раней заключанымі дагаворамі.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь будзе стаяць на варце Канстытуцыі і законаў рэспублікі, выступаць гарантам яе дзяржаўнасці і бяспекі.

З выбраннем Прэзідэнта не знікаюць усе тыя праблемы, што накапіліся ў краіне ў апошні час. Нам дасталася цяжкая спадчына. Вось чаму сваю галоўную задачу бачу ў рэалізацыі той праграмы, за якую 10 ліпеня прагаласаваў народ. Неабходна будзе тэрмінова пачаць работу па стабілізацыі фінансавай сістэмы, прадоўжыць перагаворы з Расіяй па падрыхтоўцы паўнацэннага дагавора аб эканамічным саюзе. Магчыма, з улікам палітычных перамен, якія адбыліся на Украіне.

На бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета пасля майго ўступлення на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на разгляд парламента будуць прадстаўлены кандыдатуры на пасаду прэм'ер-міністра і іншых членаў урада, якія патрабуюць па Канстытуцыі ўзгаднення з Вярхоўным Саветам. Працэс рэфармавання ўрада не можа быць ажыццёўлены ў адзін момант. Таму да афіцыйнага назначэння новых людзей на тую ці іншую пасаду ўсе службовыя асобы працягваюць выконваць свае абавязкі і несці за іх персанальную адказнасць перад беларускім народам. Усе заявы аб адстаўках без захавання адпаведнай працэдуры я расцэньваю як палітычныя дэкларацыі аб намерах некаторых асоб.

Трэба зразумець, што 11 ліпеня нічога надзвычайнага, здольнага выбіць нас усіх з каляіны, не адбылося. Рэспубліка працягвае жыць нармальным жыццём, дзяржаўны апарат і кіраўнікі прадпрыемстваў таксама павінны нармальна выконваць свае функцыі, забяспечваючы належныя дысцыпліну і парадак.

Наперадзе — цяжкая і карпатлівая работа. Выконваць нам яе ўсім разам, а для гэтага ў Рэспубліцы Беларусь неабходна захаваць грамадзянскі мір і згоду. Цяжар пераадолення крызісу ляжа на кожнага з нас, і ноша Прэзідэнта будзе самай нялёгкай. Абяцаю сумленна выконваць свой абавязак перад Беларуссю і яе народам.

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА.*
*12 ліпеня 1994 года.*

## ПЕРШАЯ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ПРЭЗІДЭНТА

11 ліпеня мы прачнуліся ў прэзідэнцкай рэспубліцы. У выніку ўсенароднага галасавання першым Прэзідэнтам Беларусі стаў 39-гадовы Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. Яго выкрывальніцкія прамовы мелі вялікі поспех у грамадстве і замацавалі за ім рэпутацыю бескампраміснага барацьбіта з карупцыяй. Менавіта гэта, а яшчэ тое, што Лукашэнка казаў людзям праўду той мовай, якая найбольш зразумела народу, і гарантавалі яму поспех на выбарах.

У мінулы аўторак беларускі Прэзідэнт правёў першую прэс-канферэнцыю з журналістамі. Напачатку ён зачытаў заяву, якая друкуецца на гэтай старонцы «Мінскай праўды». Потым даў адказы на пытанні журналістаў.

Аляксандр Рыгоравіч паведаміў прысутным, што ён сустрэўся са спікерам парламента Мечаславам Грыбам і прэм"ерам Вячаславам Кебічам, які падаў у адстаўку. Вырашана прапанаваць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета правесці нечарговую сесію Вярхоўнага Савета Беларусі 20 ліпеня. На ёй будзе прыведзены да прысягі першы Прэзідэнт рэспублікі, які назаве кандыдатуру новага кіраўніка ўрада.

А.Р.Лукашэнка пацвердзіў сваю арыентацыю на Расію, умацаванне з ёй эканамічных сувязей. Пры гэтым зазначыў, што з"яўляецца прыхільнікам верасьнёўскага (1993 г.) пагаднення, якое было значна шырэйшым, бо ў ім прадугледжвалася ўраўнаважванне цэн як для беларускіх, так і расійскіх прадпрыемстваў на энергарэсурсы." З Расіяй мы пастараемся дамовіцца, — казаў Прэзідэнт. — Не атрымаецца, будзем шукаць альтэрнатыўны варыянт, але я думаю, што ў нас павінна атрымацца. Я прыхільнік таго, каб прайсці з Расіяй увесь перагаворны працэс, і крытэрый тут адзін — гэтыя адносіны павінны быць узаемавыгаднымі".

На прэс-канферэнцыі Аляксандр Рыгоравіч зазначыў, што магчыма ўжо 13 ліпеня будзе сфарміраваны апарат Прэзідэнта, у які ўвойдуць маладыя таленавітыя людзі.

Паводле слоў Прэзідэнта, першы яго ўказ будзе датычыць кадравых перамен у Савеце Міністраў. Ён таксама сказаў, што ва ўрадзе, пэўна, застануцца С.Лінг, М.Мясніковіч і І.Кенік, а іншыя віцэ-прэм"еры «вельмі затрымаліся на пасадах».

А.Лукашэнка выказаў свае адносіны да сродкаў масавай інфармацыі." З сёняшняга дня вы можаце лічыць сябе свабоднымі. Лічыце сябе свабоднымі, але адказнымі за тое, што вы пішаце. Мы будзем падтрымліваць тыя выданні, якія рэальна адлюстроўваюць нашу рэчаіснасць, наша жыццё", — сказаў ён.

Прэзідэнт запэўніў прысутных, што ў рэспубліцы не будзе дыктатуры, а будзе дыктатура закона, зменяцца адносіны да фізкультуры і спорту.

*Мікалай КУЗЬМЕНКА.*

**ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ ● АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ**

## ЗАЯВА КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь лічыць, што выбранне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь будзе спрыяць умацаванню дзяржаўнай улады, надасць ёй новую якасць і адновіць страчаны ў вачах народа аўтарытэт.*

*У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь усенародна выбраны Прэзідэнт прымае на сябе адказнасць за становішча спраў у дзяржаве і грамадстве. Пераканаўчая перамога на выбарах — гэта народны давер Прэзідэнту, які павінен быць апраўданы.*

*Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь заяўляе аб сваёй рашучасці стаяць на варце Канстытуцыі, законаў і міжнародна-прававых актаў, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь. Суд выказвае ўпэўненасць, што Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, выступаючы ў якасці асноўнага гаранта і абаронца правоў і свабод грамадзяніна і чалавека, будзе свята выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, зробіць усё магчымае для больш хуткай стабілізацыі эканомікі і паляпшэння жыцця народа.*

*Намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда В.ЦІХІНЯ.*

## ВОСЬ ДЫК ПРЫБАЎЛЕННЕ!

У сям'і В.Лапаціна была толькі адна дзяўчынка. Як і любы малады бацька, Валерый вельмі хацеў сына. Днямі жонка Таццяна здзейсніла мару мужа — нарадзіла яму хлопчыка, а для сябе яшчэ дзвюх дзяўчынак. Кіраўніцтва калгаса «Барацьба» Пухавіцкага раёна, дзе пражывае гэта маладая, цяпер ужо шматдзетная сям'я, аказала ёй грашовую дапамогу ў памеры 3 млн. руб. Такога прыбаўлення ў вёсцы Зазерка Пухавіцкага раёна не памятаюць. У рэспубліцы тройні вельмі рэдка сустрэнеш.

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГ

28 ліпеня ў 19 гадзін у Вялікай зале Дома літаратара адбудзецца прэзентацыя чарговых 5-й і 6-й кніг ("Бывший сотрудник" і «Тагильская бездна») з серыі «Витебское дело» пісьменніка Валерыя Іларыёнавіча Сарокі.

У прэзентацыі прымуць удзел Ліга правоў чалавека Рэспублікі Беларусь, грамадскія праваахоўныя арганізацыі, былыя вязні канцлагераў і турмаў. У праграме вечара — выступленні В.І.Сарокі, чытачоў і сведкаў, мастацкая частка.

■ Статистика

## РАДОСТИ МАЛО

Возможно, с избранием первого Президента республики будут предприняты меры по остановке снижения, а затем и повышению уровня роста сельхозпродукции. Она на данном этапе пока нас не радует. Вот лишь некоторые цифры, подготовленные Минским областным управлением статистики.

За январь—июнь текущего года реализовано скота и птицы на убой 101 тыс. тонн, что на 7 проц. меньше по сравнению с этим периодом прошлого года. Это снижение допустили 19 районов области и 305 хозяйств. Сократили производство яиц 11 районов из 13, имеющих птицефермы.

Однако в некоторых районах добились не только стабильности, но и небольшого увеличения продуктивности молодняка крупного рогатого скота. Произведено 443,3 тыс. тонн молока, что составляет 105 проц. к уровню прошлого года. Увеличились валовые надои молока во всех районах, кроме Стародорожского, Столбцовского и Березинского.

От личных подсобных хозяйств населения поступило 2,4 тыс. тонн скота и птицы, что на 40 проц. меньше предыдущего года. Продано 26,1 тыс. тонн молока (45 проц. к 1993 г.).

*(Наш корр.).*

## З ПУЦЁЎКАЙ ДЗІЦЯЧАГА ФОНДУ

У складаных умовах сёлета праходзіць аздараўленне дзяцей. Таксама і тых, каго накрыла сваім чорным крылом чарнобыльская трагедыя. Але робіцца ўсё, каб дапамагчы людзям, якія трапілі ў бяду. Напрыклад, барысаўская фірма "Сімон" на гэтыя мэты пералічыла паўтара мільёна рублёў абласному аддзяленню Беларускага дзіцячага фонду. Паступілі сродкі і ад некаторых іншых прадпрыемстваў і арганізацый. Гэта дазваляе накіроўваць дзяцей на аздараўленне ў краіны далёкага замежжа.

— У ліпені-жніўні адпраўляем у Германію з Валожынскага раёна 105 хлопчыкаў і дзяўчынак, з Вілейскага раёна 35 дзяцей правядуць лета ў Галандыі. У гэтай жа краіне будуць адпачываць 10 школьнікаў з Барысаўшчыны. 25 дзяцей з Салігорскага і 15 — з Бярэзінскага раёнаў таксама адправяцца на адпачынак у Нідэрланды, — зазначыла старшыня абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду Галіна Пранько.

Дзеці з сямейных дзіцячых дамоў М.А.Сагайдаравай і Г.Л.Бушмакінай, якія маюць патрэбу ў лячэнні, атрымаюць яго ў дзіцячым санаторыі "Пухавічы", а восем з іх запрошаны на аздараўленне ў Германію і Бельгію.

Па лініі абласнога аддзялення Беларускага фонду дзеці-сіроты атрымліваюць пуцёўкі ў рэспубліканскі лагер "Зубраня". Сёлета там пабывалі ўжо 104 хлопчыкі і дзяўчынкі. У верасні з"явіцца магчымасць для лячэння такіх дзяцей у санаторыі "Случ".

*Уладзімір КОБРЫН.*

## У ПОЎНУЮ СІЛУ

*Каб зімой сытна карміць жывёлу на фермах, трэба мець удосталь кармоў. Гэту ісціну добра ведаюць у калгасе "Залужжа" Старадарожскага раёна, дзе сёлета на славу выраслі травы. Іх і імкнуцца хутчэй убраць першым укосам, каб атрымаць паўнацэнны другі.*

*Калі раней тэмпы касавіцы стрымліваліся па прычыне ўмоў надвор"я, то цяпер яны разгарнуліся ў поўную сілу. Выключнай старраннасцю вызначаюцца механізатары Мікалай Калюк, Анатоль Калюк і Васіль Чака. Яны пастаянна выконваюць дзённыя нормы.*

*— Дзякуючы ўмела арганізаванай рабоце на сенажацях, — расказвае старшыня гаспадаркі Васіль Усік, — мы назапасілі ўжо больш трох тысяч тон сенажу, дзве тысячы тон сена. А ўвогуле па тэмпах нарыхтоўкі кармоў займаем першае месца ў раёне.*

*Мікалай МАЦВЕЕЎ.*

***НА ЗДЫМКАХ:** вадзіцель Аляксандр **Кадушкін**, які заняты адвозкай сена; нарыхтоўка сена; старшыня калгаса Васіль **Усік** (другі справа) з галоўным аграномам гаспадаркі Віктарам **Мельнікам**, механізатарамі Мікалаем **Калюком**, Анатолем **Калюком** і Васілём **Чакай**.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## ПАЧАКАЕМ ДА ПЯТНІЦЫ

Калі ў Цэнтральную камісію па выбарах Прэзідэнта Беларусі ў бліжэйшы час не паступяць заўвагі і заявы, якія патрабуюць дадатковага разбору, то афіцыйныя вынікі другога тура галасавання будуць аб"яўлены ўжо ў бліжэйшую пятніцу, 15 ліпеня. Аб гэтым на сустрэчы з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі заявіў старшыня Цэнтрвыбаркама Аляксандр Абрамовіч.

Дарэчы, афіцыйныя вынікі могуць адрознівацца ад папярэдніх толькі на долі працэнта, паколькі будуць уключаць у сябе даныя аб галасаванні за межамі рэспублікі, дзе ў спісы выбаршчыкаў было ўнесена толькі каля дзвюх тысяч чалавек.

*БЕЛІНФАРМ.*

***НАДВОР'Е***

***Сёння днём па вобласці чакаецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Вецер слабы, максімальная тэмпература паветра 27—32, у Мінску — 28—30 градусаў цяпла.***

## НЕ ШАНУЕМ ПРЫРОДУ. І СЯБЕ

**Пытанне пра выкананне прыродаахоўнага заканадаўства на прадпрыемствах канцэрна "Промышленник" было цэнтральным на чарговым пасяджэнні калегіі абласнога камітэта па экалогіі.**

Адзначалася, што летась валавы выкід шкодных рэчываў ад стацыянарных крыніц склаў 1.235 тон — не "дацягнуў" да гранічнай нормы 1.836 тон. Прычым з 26 прадпрыемстваў толькі 5 выкідваюць у паветра больш за 100 тон шкодных рэчываў. У "авангардзе" ідуць Капыльскі завод гумаватэхнічных вырабаў — у яго гэты паказчык аказаўся роўны 590 тонам, і Чэрвеньскі дрэваапрацоўчы камбінат (ДАК) — 239 тон. З парушэннямі эксплуатуецца пылагазаачышчальнае абсталяванне на Смалявіцкім райаграпрамкамбінаце, Крупскім і Стаўбцоўскім дрэваапрацоўчых, Салігорскім вытворча-тэхнічным камбінатах.

З 23 прадпрыемстваў канцэрна "Промышленник" толькі 8 атрымалі дазвол на захаванне прамысловых адходаў. Згодна з рашэннямі калегіі, не пазней як 1 жніўня бягучага года і астатнія прадпрыемствы мусяць падаць адпаведныя дакументы ў Мінскі абласны камітэт. Калегія адзначыла, што кіраўніцтва канцэрна не прымае належных захадаў да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства.

## "КАЛЕКЦЫЯ" ПАДПАЛКОЎНІКА Я.

Толькі работнікі міліцыі перашкодзілі камандзіру аднаго з вайсковых падраздзяленняў Узброеных Сіл рэспублікі, што размешчана ў Барысаве, падпалкоўніку Я.ператварыць асабісты гараж у склад боезапасаў. Тут было знойдзена: амаль 800 патронаў да розных відаў зброі, дзве асвятляльныя ракеты, пяць узрыўпакетаў, штык-нож да аўтамата Калашнікава. Давяршаў «калекцыю» падпалкоўніка Я. армейскі тэлефон. На пытанне, як гэтыя прадметы трапілі ў гараж, ваенны камандзір шчыра прызнаўся, што ён іх перыядычна краў у падначаленай яму вайсковай часці. Хто ведае, магчыма, ягоную «калекцыю» хутка папоўнілі б кулямёт ці аўтамат? Магчымасць такая ў падпалкоўніка Я., трэба думаць, была.

*(Наш кар.).*





■ Весткі з Нясвіжчыны

## ПАДНОЖКА ДЗЯРЖГАНДЛЮ

Агракамбінат "Сноў" нядаўна адкрыў у горадзе ўжо другі фірменны магазін /узяў у арэнду сталовую ПМК-23, якую з-за надта дарагіх страў ніхто не наведваў/. Цяпер тут гандаль ідзе бойка. Сноўскія каўбасы, вэнджаная грудзінка, сала, тлушч і іншыя прадукты на 10—15 працэнтаў таннейшыя, чым у гархарчпрамгандлі.

Такім чынам, прамы выхад камбіната на пакупніка "адсякае" злашчасныя "накруткі". І людзям зручна, і таму, хто прадае. Паводле слоў кіраўніка агракамбіната М.Карчміта, у будучым плануецца арганізаваць на месцы і перапрацоўку малака. Гэта знізіць затраты па вывазу яго на маслазавод, свежыя малочныя прадукты з"явяцца ў фірменных магазінах.

## ПУСЦІЦЬ ШАПКУ ПА КРУГУ?

Ужо не першы год будуецца ў горадзе фізкультурна-аздараўленчы комплекс. Цераз пеньколоду ідуць работы. Высветлілася, што няма з каго спытаць за гэта: быць генпадрадчыкам ні адна будаўнічая арганізацыя не згадзілася. Парадокс: па бярвёны /для распілоўкі на дошкі/ даводзіцца ехаць... за Мінск. Хаця мясцовыя "князькі", якія ўзводзяць сабе асабнякі, бяруць лес побач з райцэнтрам.

Пакуль што толькі трэст "Прамтэхмантаж" вядзе аддзелачныя работы. Інфляцыя "з"ядае" адпушчаныя сродкі. Гарадскія ўлады заклікаюць багатых спонсараў падставіць плячо дапамогі. Бо ўсе любяць разважаць пра карысць спорту, а як трэба адкрыць кашалёк — дык у кусты...

## ПАДНОВІМСЯ, ТАВАРЫШ ЛЕНІН

Каля помніка У.І.Леніну, які стаіць ужо шмат гадоў у цэнтры горада, нядаўна з"явіліся людзі ў рабочых спяцоўках, прывезлі агрэгат электразваркі. Той-сёй думаў, што "настаў канец Валодзю Ульянаву". Не. Будаўнікі міжгаспадарчай ПМК-218 пачалі рэстаўрацыйныя работы. Звараны вакол пастамента жалезны каркас, ячэйкі яго напоўнены бетонам. І сама скульптура падноўлена, пафарбавана. Усё гэта зроблена грунтоўна, добрасумленна.

Так што людзі, відаць, яшчэ не забылі яго ідэі. Пры цяперашнім дзікім рынку зноў і зноў прыгадваюць тыя часы, калі ў жыцці хоць і было шмат праблем, але "дыхалася лягчэй".

## КАБ ПАДЛЕТАК НЕ СУМАВАЎ

Яшчэ ў 1991 годзе паміж дырэкцыяй СШ № 4 г.Нясвіжа і Клецкім лясгасам быў заключаны дагавор, згодна з якім 48 гектараў лесу школьнікі ўзялі ў арэнду на 25 гадоў. Юныя гаспадары распараджаюцца ім на юрыдычнай аснове. Ачышчаюць масівы ад сухастою і ламачча, зберагаюць мурашнікі. Мяркуецца ўзвесці часовае жыллё, пляцоўку для гульняў /на сядзібе былога Вінклераўскага лясніцтва/. У плане — збор лекавых траў, шышак, жалудоў, каштанаў.

Настаўнік, афіцэр запасу Я.Бабкоў марыць стварыць тут лясную школу, дзе б хлопчыкі і дзяўчынкі ў час летніх канікулаў змаглі "адпачываць целам і душой", займаліся карыснай справай. Пакуль што галоўны тормаз — недахоп сродкаў.

## СТАЎ КАЛГАСНІК АКЦЫЯНЕРАМ

На базе калгаса "Новае жыццё" арганізавана акцыянернае таварыства. Яго кіраўнік М.В.Салянік расказаў, што цяпер кожны вясковец мае свае акцыі, сваю грашовую долю. Пры жаданні можна выйсці з таварыства і забраць усё тое, што табе належыць. Праўда, пакуль ніхто не зрабіў такі крок.

Асноўны напрамак дзейнасці акцыянернага таварыства — няўхільны рост эканомікі, зніжэнне сабекошту прадукцыі, павышэнне рэнтабельнасці ўсіх галін вытворчасці. Толькі ў такім выпадку акцыянеры будуць папаўняць асабовыя рахункі грашовымі прыбыткамі. І ўжо той факт, што на палях дружна ідуць у рост збожжавыя і прапашныя культуры, што развіваецца падсобны промысел, сведчыць: кірунак выбраны правільны.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

■ Мясцовая ўлада: дзень за днём

# Хай будзе "горад-сад"...

***Ёсць ад чаго ганарыцца Заслаўю і заслаўчанам! Апошнім часам усё часцей наведваюць горад вялікія "дзяржаўныя мужы": тут праходзяць міждзяржаўныя перамовы — і не толькі прадстаўнікоў краін СНД, але і далёкага замежжа.***

***А як жа на высокім прыёме — ды без належачага моманту фрака? Над тым, як здабыць для горада "прыстойны касцюм", адпавядаючы гістарычнаму і геапалітычнаму значэнню сённяшняга Заслаўя, і задумаліся на пасяджэнні нядаўняга выканкома мясцовыя "дзяржаўныя мужы".***

— А пачынаем з экалогіі... — упэўнена адзначыў на пачатак размовы старшыня Заслаўскага гарвыканкома **В.Р.БАРАНАЎ.** — І, паверце, зусім не выпадкова. Справа ў тым, што невялікую тэрыторыю Заслаўя "акупіравалі" ажно... 168 прадпрыемстваў і арганізацый, сярод якіх — тры прамысловых, дзевяць будаўнічых, асфальтабетонны завод, філіял малочнага завода. На прадпрыемствах налічваецца ні многа — ні мала — 1.423 адзінкі машын і механізмаў, сілавымі ўстаноўкамі якіх з'яўляюцца рухавікі ўнутранага згарання. А гэта зусім не аздараўляе горад і грамадзян...

Крыніц забруджання ў нас, што называецца, хапае з лішкам. Гэта выкіды ў атмасферу прадуктаў згарання: папершае, паліва аўтатранспартнага парку, падругое, кацельняў. А чаго "каштуюць" шматлікія сцёкавыя воды прадпрыемстваў і арганізацый!

Вокіс вуглявода, узвешаныя рэчывы, сярністы ангідрыт, вуглявадароды, зварачная аэразоль — вось чым, паводле заключэння санэпідстанцыі і іншых адпаведных службаў, мы дыхаем і жывем. Нягледзячы на шматлікія ахоўныя мерапрыемствы, праведзеныя на асфальтавым заводзе ДСУ-12, выкіды брудных рэчываў у навакольнае асяроддзе параненйшаму высокія — амаль палова ад усіх "атрут" іншых прадпрыемстваў. Таму ў бліжэйшай перспектыве завод мяркуецца закрыць.

Акрамя таго, мяркуем перавесці на газ кацельні ПМК-204, карданажнапаліграфічнай фабрыкі, хлеба- і малочнага заводаў, якія працуюць сёння на мазуце і цвёрдым паліве. Прадстаіць перавесці на газавае паліва аўтатранспарт жылкамунгаса. І гэта — толькі пачатак.

Словам, прынята цэлая маштабная праграма пад назвай "Экалогія", зацверджаная на апошнім пасяджэнні выканкома. Сярод шматлікіх мерапрыемстваў па ахове навакольнага асяроддзя Заслаўя, прадугледжаных у ёй, — паляпшэнне водасістэмы горада і рацыянальнае выкарыстанне вады, паляпшэнне работы па ачыстцы горада і развіццю сеткі каналізацыі...

***Што і як удасца, пакажа час. Але на заканчэнне заслаўскі мэр аптымістычна заверыў: у 95-м годзе выканком мае намер звярнуцца ва ўрад рэспублікі з просьбай аб наданні Заслаўю — гораду з багатай даўнінай і, хочацца верыць, не менш багатай будучыняй — статуса запаведніка.***

***Мо, будзе "горад-сад"?..***

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*
*г. Заслаўе.*



## СУСТРЭЧА З ЛАЎРЭАТАМІ

Прэзідыум абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду за вялікія клопаты аб падрастаючым пакаленні прысвоіў грашовыя прэміі "Сябар дзяцей". Такога гонару ўдастоены старшыня калгаса "Новае жыццё" Салігорскага раёна С.М.Прохарчык, урач-педыятр Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы В.С.Гурыновіч, арганізатар па ахове праў дзяцей, настаўніца з г.Маладзечна С.Н.Пашкевіч.

Нядаўна ў абласным аддзяленні фонду адбылася сустрэча з лаўрэатамі прэміі "Сябар дзяцей" В.С.Гурыновіч і С.Н.Пашкевіч.

**На здымку:** /справа налева/ старшыня абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду **Г.Г.Пранько, В.С.Гурыновіч, С.Н.Пашкевіч** і намеснік старшыні Барысаўскага раённага аддзялення дзіцячага фонду, інспектар па абароне дзяцінства аддзела адукацыі райвыканкома **Л.У.Гальчанка.**

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Сацыяльны ракурс

# ЗА КОШТ КАГО ЛЬГОТЫ?

У аўтобус, які ішоў з вёскі Крывічы ў Салігорск, зайшоў кантралёр. Усе месцы "ЛАЗа" былі заняты, некалькі пасажыраў стаялі ў праходзе.

Кантралёр праверыла білеты і, зрабіўшы адзнаку ў дакументах вадзіцеля, заўважыла:

— Усяго каля дзесяці пасажыраў з білетамі. Астатнія — ільготнікі.

— За нас, пенсіянераў, урад плаціць, які льготы ўстанавіў, — адказала ёй жанчына з пярэдняга сядзення.

На самай справе ўсё зусім не так. Расходы на перавозку льготнікаў кампенсуюць са сваіх бюджэтаў мясцовыя ўлады, якія і без таго ледзьве канцы з канцамі зводзяць. Страты Салігорскага аўтобуснага парка на прыгарадзе перавысілі паўмільярда рублёў.

— З іх мы змаглі кампенсаваць толькі палавіну, — гаворыць намеснік старшыні райвыканкома А.А.Казакевіч. — Калі ўрад лічыць, што пенсіянеры заслужылі права на бясплатны праезд, то трэба кожнаму з іх проста даплачваць пэўную суму да пенсіі. Няхай чалавек купляе білеты і ездзіць на здароўе. Сярэднюю даплату з улікам аддаленасці пражывання ад райцэнтра вылічыць не цяжка. А то старыя, хворыя, як правіла, дрэнна забяспечаныя пенсіянеры ад гэтай ільготы ўвогуле нічога не маюць, бо не могуць ездзіць у аўтобусах.

Аўтамабілістам жа за нешта трэба жыць. Адзін з выхадаў — адкрыццё камерцыйных маршрутаў у выхадныя дні.

Плата за кіламетр праезду на прыгарадным аўтобусе такая ж, як і на міжгароднім.

Дарэчы, у гэтым падзеле варта навесці парадак. Скажам, каб даехаць да вёскі Вялікі Лес, трэба заплаціць у два разы больш, чым да суседняга райцэнтра — Слуцка, хаця адлегласць да іх прыблізна аднолькавая — 30 кіламетраў. Бо прыгарадным лічыцца маршрут адлегласцю да 50 кіламетраў. А ў Вялікім Лесе спыняюцца аўтобусы, якія ідуць да Гоцка, да якога 60 кіламетраў. І маршрут лічыцца міжгароднім.

Ёсць у аўтамабілістаў і ўласныя рэзервы для папаўнення сваёй касы. У прыватнасці, барацьба з вадзіцелямі, якія не выдаюць білеты пасажырам.

— Усё ж за кошт чаго існуюць работнікі аўтобуснага парка? "Беларуськалій" выдзеліў ім паўмільярда рублёў на падрыхтоўку да зімы. Гэта фактычна аванс, які яшчэ трэба адпрацаваць. З усіх маршрутаў рэнтабельныя толькі мінскія. Прыносяць даходы заказныя аўтобусы, якія перавозяць будаўнікоў, работнікаў гандлю з іх таварамі. Атрыманых грошай не хапае для пакрыцця ўсіх страт. Патрэбны датацыі. Толькі дзе іх узяць?

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

**Па старонках мясцовага друку**

## Для блізкага замежжа

Пухавіцкі доследна-эксперыментальны завод — адзінае прадпрыемства на Беларусі, якое выпускае ціскі слясарныя ТС-80 і ТС-125. Шмат спажыўцоў гэтай прадукцыі ёсць у Прыбалтыцы, Заходняй Расіі. Быў час, калі ціскі пастаўляліся нават на Далёкі Усход. Але разлікі цягнуліся доўга, тым часам цэны раслі, і на прадпрыемстве вырашылі працаваць на бліжэйшых суседзяў.

Расказваючы аб гэтым на старонках райгазеты **"Пухавіцкія навіны"**, галоўны інжынер завода, кандыдат тэхнічных навук С.Кузьмічоў падкрэслівае, што ў год на прадпрыемстве выпускаецца 5 тысяч цiскоў ТС-80 і 25 тысяч — ТС-125. Патрэба ж у іх намнога большая, але з-за адсутнасці абсталявання нарошчваць вытворчасць гэтага віду прадукцыі немагчыма.

Неўзабаве завод прыступіць да выпуску задзвіжной арматуры — вентыляў — для індывідуальных забудоўшчыкаў. Заканчваюцца работы над распрацоўкай камплекта пячнога ліцця для індывідуальных дамоў.

## Па лагойскаму праекту

выпрабляюць мэблю на Івянецкім дрэваапрацоўчым камбінаце, як сведчыць валожынская раённая газета **"Працоўная слава".** Гэта ў першую чаргу кухні, якія і носяць назву "Лагайчанка". Акрамя гэтага, на камбінаце асвоілі выпуск мяккіх куткоў, вуглавых канап.

На выраб мэблі траціцца нямала сродкаў — лакі, фарбы, растваральнікі набываюцца ў Расіі. У выніку аб прыбытках гаварыць пакуль не прыходзіцца. І ўсё ж выхад бачыцца ў дастаўцы мэблі напрамую на расійскі рынак, без пасрэдніцкіх фірм, як цяпер.

## Да чайнага напітку — кансервы ды каўбасы

У падсобных цэхах калгасаў і саўгасаў Вілейшчыны летась выраблена тавараў для насельніцтва на суму больш трох мільярдаў рублёў, прадуктаў харчавання — амаль на 90 мільёнаў, — піша мясцовая газета **"Шлях Перамогі"** — Гэта мясныя і гароднінныя кансервы, чайныя напіткі, фруктовае пюрэ, настоі араматычных траў. У мінулым годзе здадзены ў эксплуатацыю каўбасны цэх у калгасе "Барацьбіт", цэх па перапрацоўцы грэчкі ў калгасе "Вілейскі".

У спажывецкай кааперацыі людзі мелі магчымасць атрымаць 513 тон каўбасных вырабаў, 78 — кандытарскіх і 25 тысяч дэкалітраў безалкагольных напіткаў. Дадаткова было закуплена тавараў народнага спажывання амаль на 2 мільярды рублёў.

Сёлета робіцца ўсё, каб не толькі пераўзысці мінулагоднія паказчыкі, а ў поўнай меры забяспечыць насельніцтва раёна прадуктамі харчавання як за кошт спажывецкай кааперацыі, так і падсобных цэхаў гаспадарак.

■ Рэфармацыя і дэфармацыя

# ВОДАПРАВОД ЦІ КАЛОДЗЕЖ,

### *або Колькі яшчэ часу індывідуальным забудоўшчыкам у г.Клецку чакаць, пакуль можна будзе "ўрэзацца" ў водаправод, цэнтральнае ацяпленне, каналізацыю?*

Ці ёсць выйсце? Аб гэтым гутарка нашага карэспандэнта з намеснікам старшыні райвыканкома, начальнікам упраўлення капітальнага будаўніцтва **І.І.ШЫБУТАМ.**

***— Іван Іванавіч, хаця ўсё сёння крычаць аб цяжкасцях з будаўніцтвам уласных дамоў, а між тым у горадзе як грыбы пасля дажджу растуць асабнякі. А камунальныя паслугі, мякка кажучы, адсутнічаюць.***

— Так, так, спадзявацца, што дзяржава, як некалі, дасць жыллё, ужо нельга. Людзі бяруць крэдыты, «падскрабаюць» уласныя грошы, а часам і ў сваякоў пазычаюць, каб займець свой куток. На ўскрайку Клецка з"явяцца мікрараёны «Віцім-1" і »Віцім-2". Вядома, кожнаму хацелася б, каб у кватэрах было ўсё «як у цэнтры горада». Але ж гэта няпростая справа. Возьмем, скажам, цеплацэнтраль. Пакуль што нас выручае маласыраробны камбінат. У яго магутная кацельня, ён па сутнасці і «саграває» горад. Сёлета гэтую кацельню пераабсталёўваем на прыродны газ, тады, вядома, магчымасцей будзе больш. Мяркуем пачаць газіфікацыю і індывідуальных дамоў, асабліва па вуліцы «17 верасня» /тут амаль 200 кватэр/. А пакуль што забудоўшчыкі ставяць «кацялкі», якія працуюць на цвёрдым паліве.

***— Ведаю, што прыроднага газу чакаюць і ў вёсках, дзе праблема з палівам таксама вострая.***

— Што і казаць, газ цяпер дарагі, усе аб гэтым ведаюць. І ўсё ж ніхто не «галасуе» супраць. Блакітным палівам ужо сілкуюцца кацельні ў племзаводзе «Чырвоная зорка», райаграпрамтэхніцы, сельэнерга. У хуткім часе будуць адкрыты газавыя краны ў калгасах «Кастрычнік», «Авангард». Той, хто займаецца гэтай праблемай, ведае, колькі трэба «спаліць» нерваў, каб «выбіць» праекты, трубы, аснастку... Нам было б цяжка весці газіфікацыю, каб не дапамаглі фінансамі кіраўнікі гаспадарак, прамысловых прадпрыемстваў, абласное ўпраўленне капітальнага будаўніцтва.

***— Згодзен, газ — "штука" дарагая. Забудоўшчык можа саграваццa і "кацялком", не губляючы надзеі, што некалі і на яго вуліцы будзе "блакітнае свята". Больш нязручнасцей прыносіць людзям адсутнасць водаправодных і каналізацыйных сетак. Што тут рабіць?***

— Бюджэтных сродкаў на гэтыя мэты ў нас няма. Самі ведаеце, як «трашчаць» сёння фінансы. У прынцыпе, «плячо» маглі б падставіць зноў-такі прамысловыя прадпрыемствы, арганізацыі горада, але ж і ў іх пустыя рахункі ў банках, многія «сядзяць» у крэдытах. Людзі самі ўжо гатовы ўнесці пэўныя сумы, каб мы ўзяліся за будаўніцтва камунікацыйных сістэм. «Пацягнуць» гэтыя збудаванні, як вядома, вельмі цяжка: тут не мільёнамі, а мільярдамі пахне. І нічога не зробіш. Прыйдзецца пажыць трохі нашаму навасельцу з калодзежам, з выграбной ямай. Думаю, што ў рэшце рэшт стабілізуецца эканоміка, «набярэ вагу» рубель, і тады мы абавязкова прыйдзем на дапамогу жыхарам новых мікрараёнаў.

***— Як наогул вядзецца будаўніцтва ў раёне? Жыццё ж спыніць нельга.***

— Лягчэй вырашаць гэтую задачу тым, у каго ёсць сродкі. Той жа маласыраробны камбінат засяліць сёлета 60-кватэрны дом. Плануем пачаць будаўніцтва ў горадзе яшчэ аднаго такога ж дома на долевай аснове. Што датычыць вёскі, то ў калгасе імя Ульянава справяць наваселлі дванаццаць сем"яў, у калгасе «Чырвоны партызан» — шэсць. Вядуцца аддзелачныя работы ў новых дамах культуры ў калгасе «Камунар», у саўгасе «Зубкі». Узводзяцца дзіцячы сад у калгасе «Туча», сховішча для садавіны ў калгасе «Клецкі». Але, паўтараю, тэмпы работ не задавальняюць. Інфляцыя падсякае пад корань. Будматэрыялы даражэюць на вачах. Падрадчыкі «заломваюць» такую цану, што валасы дуба становяцца. Пераходзіць на гаспадарчы спосаб? Дык і тут надводныя і падводныя рыфы сустракаюцца на кожным кроку. І ўсё ж нідзе не дзенешся. Будуем патроху, круцімся. Спадзяёмся на лепшыя часы.

# НЕЗАМУТНЁНАЯ «КРЫНІЧАНЬКА»

Надвячоркам нярэдка можна бачыць, як у клуб вёскі Раеўшчына Маладзечанскага раёна крочыць пенсіянерка Вера Васільеўна Сымановіч са сваімі ўнучкамі Людмілай і Аленай. Усе тры — актыўныя ўдзельніцы фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Крынічанька". Дарэчы, сямейных дынастый у гэтым калектыве некалькі. Побач з маці-гераіняй, пенсіянеркай Марыяй Аляксандраўнай Галюк у хоры спявае яе дачка Лілія. Не прапускаюць рэпетыцый і Галіна Пятроўна Галюк, яе дачка Валянціна. Ды ці пералічыш усіх, хто даносіць да людскіх сэрцаў прыгажосць народнага мастацтва!

Адзінаццаць гадоў гэтым ансамблем кіруе загадчыца мясцовага клуба Валянціна Феліксаўна Данілевіч, акампаніятар — яе муж Уладзімір Уладзіміравіч. Варта адзначыць, што вёска Раеўшчына невялікая. Цэнтр калгаса "Усход" ад яе за чатыры кіламетры, сельскі Савет — за пяць, сярэдняя школа таксама няблізка. А вось песень жыхары Раеўшчыны ведаюць столькі, што, як адзначыў загадчык аддзела культуры райвыканкома Іван Пяткевіч, іх не перапяваць усёй Маладзечаншчынай.

Фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Крынічанька" неаднаразова выступаў у Мінску. З праграмай "Вячоркі" выступалі самадзейныя артысты ў Доме мастацтваў. Прыхільна іх сустракалі ў сталічным клубе імя Дзяржынскага, у Доме літаратара, у Цэнтральным дзіцячым парку імя Горкага. Паспяхова "Крынічанька" выступіла ў Польшчы, у Літве. Ансамбль — актыўны ўдзельнік усіх раённых і абласных аглядаў-конкурсаў, на якіх знаёміць слухачоў са скарбамі народнай песеннай творчасці.

— Мяне вельмі радуе, што нашы песні, у тым ліку і многія даўнія, традыцыйныя, не страчваюць сваёй жыццяздольнасці і сёння, актыўна і арганічна ўваходзяць у паўсядзённы побыт нашых сучаснікаў, задавальняюць іх духоўныя запатрабаванні, — зазначыла кіраўнік ансамбля Валянціна Данілевіч.

Ансамбль "Крынічанька" раённым аддзелам культуры прадстаўлены да прысваення ганаровага звання "народны".

І яшчэ. Ён паспяхова выступіў на Першым міжнародным фестывалі фальклору, які нядаўна праходзіў у Беларусі.

*Уладзімір КОБРЫН.*



Калі зайграе гармонік ды заспявае "Смалянaчка", цяжка ўседзець на месцы, немагчыма не падпяваць гэтым вясёлым і прыгожым дзяўчатам. Ансамбль "Смалянaчка" створаны пры смалявіцкім Доме культуры, ведаюць яго ва ўсіх вёсках раёна. Дзяўчаты заўжды прымаюць удзел у канцэртах творчых самадзейных калектываў.

*Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.*

■ Ну і ну!

# ЗАЧАРАВАНЫ ПАРТФЕЛЬ,

### *або Чаму пасада дырэктара Нясвіжскага гармалаказавода выклікае ў раёне безліч чутак і домыслаў*

**Усё пачалося з таго, што некалькі гадоў назад раённыя ўлады вырашылі вызваліць ад гэтай пасады Астапа Астапавіча Цапінскага. Фармулёўка — "за слабае кіраўніцтва і дапушчаныя недахопы ў рабоце". Партфель дырэктара тады дастаўся маладому спецыялісту Валерыю Уладзіміравічу Дубіне.**

Адразу зазначым: ніхто глыбока не ўнікаў у работу прадпрыемства і яго кіраўніка. Бо ў рэшце рэшт рашэннем народнага суда А.А.Цапінскі быў "вернуты" на сваё ранейшае месца.

Ішоў час. Астап Астапавіч кіраваў заводам. Калектыў перайшоў на арэнду. Справы ладзіліся. Але ж жыццё ёсць жыццё. "Падышоў" пенсійны ўзрост, "закульгала" здароўе.

Сёлета ў сярэдзіне студзеня нечакана для калектыву Цапінскі прапанаваў на сваё месца Дубіну, а сябе — у яго намеснікі. Збіраецца сход. Адкрытым галасаваннем Валерый Уладзіміравіч выбіраецца і членам праўлення арэнднага прадпрыемства, і яго кіраўніком.

Пазней у раённую пракуратуру паступяць тэлефонныя званкі: "Выбары Дубіны прайшлі незаконна". Праверка паказала, што быў парушаны статут завода, што праігнаравалі тайнае галасаванне. Зноў збіраецца сход, каб усё паставіць на сваё месца.

Аднак цяпер сітуацыя ў калектыве змянілася. Не ўсе рабочыя падтрымлівалі стыль кіраўніцтва Дубіны. Той-сёй ставіў яму ў віну заўзятую прадпрымальніцкую дзейнасць, хаця сёння гэта лічыцца адной з галоўных якасцей кіраўніка.

Здзівіла і пазіцыя Цапінскага, які на сходзе "змяніў пласцінку". Ён заявіў, што "памыліўся", даючы станоўчую рэкамендацыю Валерыю Уладзіміравічу, што яшчэ і сам мог бы ўзначаліць прадпрыемства. І тут жа зачытаў заяву, каб яго зноў выбралі дырэктарам.

Праўда, ніхто з прысутных не ўспрыняў усур"ёз такі ход Цапінскага.

Выконваючы прадпісанне пракурора, тайным галасаваннем пачалі выбіраць дырэктара. Рабочым, мусіць, надакучыла гульня ў "кошкі-мышкі", і яны "пракацілі" В.У.Дубіну. Дырэктарам малаказавода стала Ліна Георгіеўна Баранцэвіч, якая працавала тут галоўным эканамістам.

А што з Цапінскім і Дубінай? Абодва пакуль што "ходзяць" у намесніках. Пакуль што... Бо ў штаце такія пасады не прадугледжаны. Новаму дырэктару не пазайздросціш...

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

■ Фельетон

# Дважды премированный

КАК УТВЕРЖДАЕТ наука, в каждом из нас заложены огромные творческие возможности. К примеру, в заурядном дворнике может быть скрыт талант под стать легендарному Карузо, а в скромной швее-мотористке остается невостребованной знаменитая Галина Уланова. Важно вовремя открыть этот талант, взрастить его, взлелеять. И тогда он принесет обществу неоценимую пользу.

В этом смысле на директора боровлянской СШ №2 Минского района В.Г.Маркина однажды нашло нечто вроде озарения. В своем зяте Василии — простом электрике — он узрел вдруг невостребованную педагогическую одаренность. И, чтобы новоявленный талант не оказался зарытым в землю — оформил Василия к себе в школу старшим вожатым. Какую пользу при этом Маркин пытался извлечь для общества? Вопрос, скажем, не простой. Ибо успехами Василия на ниве народного образования заинтересовались не педагогические круги, а люди совершенно иного ведомства — работники Контрольной палаты Республики Беларусь по Минской области. Они и спросили на сей счет заместителя директора по воспитательной части Анкуд. В ответ услышали буквально следующее:

— То, что зять директора оформлен у нас старшим вожатым, для меня не новость. Но лично он никакой помощи или участия в педагогически-воспитательном процессе не принимал.

После таких слов работники Контрольной палаты сделали еще несколько "открытий чудных". Например, оказалось, что тот же зять Василий, кроме старщего вожатого, был зачислен еще на полставки гардеробщицей и уборщицей. Чему немало удивился техперсонал школы, ибо никто из них никогда не видел, чтобы Василий принимал пальто у детишек или драил пол в классе. Да и для самого старшего вожатого Василия эти две должности были новостью. Впрочем, получая зарплату, он не интересовался, за какие-такие труды начисляются деньги.

Внимательно изучая хозяйственную деятельность Владимира Георгиевича Маркина за последние три года, проверяющие по бухгалтерским документам узнали, что на ремонт фасада школы было отпущено свыше 120 тысяч рублей (в ценах 1991 года). Но сколько ни всматривались в фасад — нигде и малейшего намека на проведенный капремонт. Впрочем, как он мог проводиться, если ни в школе, ни в роно технической документации не оказалось. А выделенные средства, со слов директора, пошли на покраску забора, столбов, окон, дверей. Интересно, во сколько слоев?

Нет, мы прекрасно понимаем, в каком бедственном положении оказалась сегодня система народного образования из-за гиблого экономического положения в республике. Раньше не было особой роскоши, а теперь и подавно. Оттого и борются за выживание все, как могут. Поэтому язык не поворачивается упрекнуть Владимира Георгиевича за то, что он пустил на школьные площади кооператоров. Ведь этим самым он девочек-старшеклассниц привлек к материально-заинтересованному труду. На производственной практике они мастерили какие-то изделия для куртки типа "Аляска". Потом за свои труды получали деньги. Прямо, как у Макаренко. Только с поправкой на коммерческий расчет.

Одно смущает в этом новаторстве: почему арендную плату за используемые школьные площади кооператоры не платили? Ведь таким образом можно было подсобрать какую-то копейку и на ремонт фасада школы, и, возможно, еще на что-то. Бюджет ведь не бездонная бочка.

Однако не будем утверждать, что все в хозяйственной деятельности Маркина было однозначно туманным. Например, работники Контрольной палаты без особого труда установили, что Владимир Георгиевич, в нарушение существовавшего законодательства, премировал сам себя. В апреле и сентябре 1993 года. Хотя в это же время его премировало роно. И без разрешения Минского райисполкома за счет государственных средств погасил ссуду на строительство своего жилого дома.

В итоге оказалось, что "действиями директора боровлянской СШ №2 В.Г.Маркина причинен материальный ущерб в сумме 1 миллион 084 тысячи рублей" (в ценах предыдущих лет).

Как на это отреагируют в роно, облоно? Не знаем. Знаем только одно: материалы проверки направлены в соответствующую комиссию Верховного Совета Республики Беларусь.

*Николай ЖУЧКО.*

■ Спадчына

# КРАЙ РОДНЫ, КРАЙ ПРЫГОЖЫ...

У гэтыя дні шмат віншаванняў атрымлівае педагагічны калектыў Вежскай СШ Слуцкага раёна. Справа ў тым, што гэтай школе па выніках конкурсу на лепшую пастаноўку работы аб ахове прыроды райвыканком прысудзіў першую прэмію ў суме 250 тысяч рублёў. Апярэдзіць усе навучальныя ўстановы раёна справа, вядома, нялёгкая. Тым больш, што пасёлак Вежы самы малады ў раёне. Яму ўсяго толькі чатыры гады. І настаўнікі, і вучні лічылі сваім першым абавязкам азеляніць яго, дагледзець кожнае дрэўца, кожны кветнік. І дамагліся свайго. Ахова прыроды — гэта толькі адзін раздзел з распрацаванай школай праграмы "Спадчына". У гэтым пасёлку жывуць людзі, якія прыехалі з розных раёнаў Беларусі. Ён стаў для іх маленькай радзімай. Таму педагогі і робяць усё, каб яго жыхары, асабліва дзеці, ведалі гэты куточак роднага краю, берaглі яго прыроду, каб адчулі, што ён часцінка нашай Бацькаўшчыны.

У Вежы нярэдка прыязджаюць з іншых школ, каб пазнаёміцца з вопытам вывучэння гісторыі роднага краю. Цяпер, калі рыначнае бязладдзе стрыножыла дзейнасць школ, далёка не кожны калектыў раскашэльваецца на тое, каб за сотні кіламетраў адправіць дзяцей на экскурсію. У Вежскай СШ знаходзяць сродкі на такія мэты. Вучні зрабілі экскурсіі ў Мінск, Заслаўе, Нясвіж, Мір, наведалі мемарыяльны комплекс Хатынь, Курган Славы. Цікавай атрымалася паездка ў Мікалаеўшчыну — на радзіму народнага песняра Якуба Коласа. Як сваіх добрых знаёмых сустракаюць педагогаў і школьнікаў і ў Слуцкім краязнаўчым музеі, дзе яны даведваюцца шмат каштоўнага пра свой родны край, яго знакамітых людзей.

Усё гэта спрые выхаванню надзейных патрыётаў сваёй Бацькаўшчыны.

*Уладзімір АНТОШЫН.*

■ Міласэрнасць

# Калі ў цябе ёсць сябры...

Гельмут Вальтэр наведаў Беларусь упершыню. Вядома, ён шмат чуў пра яе, пра цяжкасці, з якімі даводзіцца сутыкацца беларускаму народу.

— Праўда, я, як і ўсе жыхары нашага невялікага гарадка Ахіма, крыху інакш уяўляў гэтыя цяжкасці, — заўважае Гельмут. — Калі верыць чуткам, дык у вас у магазінах пуста, людзі галадаюць. Убачыўшы ўсё на свае вочы, я не магу сказаць, што ўсім беларусам жывецца добра. Але ж прадуктаў на паліцах магазінаў хапае. Іншая справа, што не ва ўсіх ёсць грошы.

Так, рынак правёў глыбокую рысу паміж забяспечанымі і маламаёмнымі. Адны купляюць машыны замежных марак, іншым не хапае грошай на лекі. А медыцына, хоць сёння яшчэ і бясплатная, усё ж бясплатна лячыць ужо не можа, бо сама стаіць на рыначным бальшаку з жабрацкай торбай. Запазычанасць Бярэзінскай раённай бальніцы толькі перад аптэкай на 15 мая складала 220 мільёнаў рублёў. І гэта не самы вялікі доўг.

Вось таму і прыехаў Гельмут Вальтэр у Беразіно не з пустымі рукамі. Сярод прадметаў гуманітарнай дапамогі, якую ён даставіў у раённую бальніцу і ў Бярэзінскую школу-інтэрнат, — прадукты харчавання, дзіцячыя цацкі, хірургічныя інструменты, пальчаткі, шпрыцы, перавязачныя матэрыялы, сардэчныя прэпараты і шмат чаго іншага, прыкладна,

на дванаццаць з паловай тысяч нямецкіх марак.

Як сцвярджаў Джэк Лондан, міласэрнасць — гэта не проста кавалак, кінуты галоднаму, а кавалак, раздзелены з іншым у той час, калі ты сам галадаеш гэтак жа, як і ён. І дапамога, дастаўленая Г.Вальтэрам, — сапраўдны акт міласэрнасці, бо ні для яго самога, ні для яго суайчыннікаў грошы, патрачаныя на яе, лішнія не былі.

Гельмут Вальтэр трыццаць год працуе ў мытнай інспекцыі горада Брэмена, што за дваццаць кіламетраў ад Ахіма. Яго жонка — прадавец у адным з магазінаў, старэйшая дачка мае ўжо сваіх дваіх дзяцей, а шаснаццацігадовы сын вучыцца ў школе. Каб прыехаць у Беларусь, Гельмут кожны месяц адкладваў грошы, эканоміў.

— Пан Вальтэр, вы далёкі ад медыцыны чалавек. Чаму вы заняліся арганізацыяй гуманітарнай дапамогі для бальніцы і менавіта для Бярэзінскай? — цікаўлюся я.

— Мне даводзілася чуць пра цяжкае становішча ў медыцынскіх установах вашай рэспублікі, пра тое, што яны не заўсёды могуць купіць неабходнае абсталяванне, медыцынскія інструменты і лекавыя прэпараты. Таму і вырашыў стварыць арганізацыю, якая магла б дапамагаць адной (каб не распыляцца) з бальніц. Сёлета ў лютым створаны "Саюз дапамогі для Беларусі", які налічвае зараз 11 чалавек. Усё арганізавана на добраахвотных асновах, і дапамога, якую я даставіў у Беразіно, закуплена на ахвяраванні нямецкіх фірм і грамадзян. Хачу яшчэ ўпамянуць і ваенных урачоў з Парыжа, бо частка дапамогі перададзена імі.

Дадам, што знаёмства са становішчам у вашых медыцынскіх установах, асабліва ў Дзмітравіцкай участковай бальніцы, выклікала вялікае засмучэнне. Тым абсталяваннем, якім зараз карыстаецца хірургічнае аддзяленне раённай бальніцы, мы карысталіся гадоў пяцьдзесят назад.

Чаму я наладзіў кантакт менавіта з вашай бальніцай? Гэта заслуга Наталлі Міхайлаўны Удзіловай. З ёй і яе мужам я пазнаёміўся ў 1990 годзе, калі муж Наташы служыў у Германіі. Ну а паколькі сама яна з Беразіно і зараз жыве ў маці, то я і вырашыў прывезці сюды дапамогу і заадно наведаць сваіх добрых сяброў.

— Якія наогул уражанні ад Беразіно, ад Беларусі?

— Спадабалася прырода. А вось дарог добрых у вас няма. Уражанняў вельмі шмат, і зараз я не магу сказаць штосьці канкрэтнае. Над многім трэба яшчэ падумаць, як кажуць, пераварыць, пераасэнсаваць. Хачу толькі яшчэ раз падкрэсліць, што ўсё ўбачанае мною яшчэ больш пераканала мяне ў неабходнасці аказання гуманітарнай дапамогі. Магчыма, яна будзе не вельмі значная, таму што сёння Германія дапамагае і Украіне, і Расіі, і Паўднёвай Афрыцы, і Югаславіі. Усё будзе залежаць ад ахвяраванняў фірм. Я зрабіў шмат фатаграфій, якія, думаю, пераканаюць маіх суайчыннікаў у неабходнасці нашага супрацоўніцтва.

Разам з дапамогай для бальніцы Гельмут Вальтэр прывёз і прыватныя пасылкі з прадуктамі харчавання і адзеннем, якія нямецкія сем'і сабралі для нашых малазабяспечаных грамадзян. У кожную пасылку ўкладзена пісьмо ў надзеі атрымаць на яго адказ і наладзіць сяброўскія адносіны.

На развітанне Гельмут пажадаў, каб становішча ў нашай краіне хутчэй змянілася ў лепшы бок, каб беларусы, нягледзячы на сённяшнія цяжкасці, не страчвалі пачуцця гумару і былі аптымістамі.

Галоўны ўрач Бярэзінскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання В.І.Аўрамаў шчыра падзякаваў Гельмуту Вальтэру за каштоўны падарунак і дадаў, што раённая бальніца плануе наладзіць больш цесны кантакт з бальніцай горада Ахіма. Дарэчы, падобныя сувязі ўжо наладжаны з ірландскімі калегамі, госцем якіх і быў нядаўна В.І.Аўрамаў.

Сапраўды, варта шчыра падзякаваць людзям, нераўнадушным да чужога гора, да чужых цяжкасцей, людзям, якія бачаць сваё шчасце і сэнс жыцця ў тым, што жывуць дзеля іншых. Шкада толькі, што гэты "дзякуй" за бескарыслівую дапамогу мы гаворым часцей за ўсё замежным фірмам і грамадзянам. Не думаю, што ў нас усе жывуць так ужо бедна. Аднак мецэнаты, як правіла, знаходзяцца чамусьці за мяжой.

*Ніна ФЕДАРОВІЧ.*

■ На карце Міншчыны

# ЁСЦЬ РЭЧКА ТАКАЯ - ЛАКНЕЯ

**Калі вам давядзецца ехаць са Слуцка па Брэсцкай шашы, то кіламетры за тры ад горада пераедзеце мост праз Лакнею — адну са шматлікіх малых рэк Беларусі.**

**Нарадзіўшыся сярод капыльскіх палёў, Лакнея на працягу сарака трох кіламетраў з дапамогай шматлікіх ручаёў і канаў збірае лішкі вільгаці з наваколля ў даволі прыстойны паток. А ўжо каля слуцкай вёскі Кляпчаны дзевяноста кубічных метраў сваёй вады аддае кожную хвіліну старэйшай сястры — Случы, каб тая праз Прыпяць, Днепр перадала прывітанне ад яе самому Чорнаму мору.**

Лакнея — рэчка старажытная, назва яе існуе ўжо не адно стагоддзе. У грамаце слуцкага князя ад 20 сакавіка 1455 года гаворыцца: «Мы, князь Михайло Олександрович, произволили боярину нашему пану Василью Царю купити дворець... на Локнеи, и, купив тот дворець, придати Святой Троици у Слуцку...» Гэта пакуль што самае ранняе з вядомых упамінанняў Лакнеі ў гістарычных дакументах. Крыху пазней, у 1493 годзе, княгіня Ганна Мсціслаўская (удава князя Міхаіла Аляксандравіча) разбірала спрэчку паміж ігуменам слуцкага Троіцкага манастыра Іосіфам і сакольнікамі Гіковічамі аб межах манастырскіх зямель. У грамаце княгіні запісаны тлумачэнні ігумена: «...то есть земля звечная церковная, от монастыря и до той сосны, на одном корени две... подле Иванское дороги, а от тое сосны до Локнеи...»

Гісторыя сведчыць, што на берагах Лакнеі здаўна сяліліся людзі. Пацвярджэннем таму — вёскі Труханавічы і Жукі, што на Капыльшчыне, слуцкія Мусічы і Бязверхавічы, Івань і Вялікае Журава, а ўсяго — пятнаццаць пасяленняў, што знаходзяцца толькі ў бліжэйшым (не болей кіламетра) наваколлі Лакнеі. Сярод іх ёсць і даволі старажытныя. Так, вёска Івань, паводле граматы Вялікага князя Літоўскага Аляксандра, ужо ў XY стагоддзі была адным з буйнейшых пасяленняў Слуцкага княства.

Аднак Лакнеі давялося быць сведкай узнікнення яшчэ больш ранніх паселішчаў на тэрыторыі сучаснай Случчыны. Непадалёку ад яе, на паўночнай ускраіне вёскі Івань, знаходзіцца помнік археалогіі, які спецыялісты адносяць да YI-IY стагоддзяў да нашай эры — I стагоддзя нашай эры. Гэта гарадзішча ранняга жалезнага веку, якое належала носьбітам трох археалагічных культур: мілаградскай, зарубінецкай і штрыхаванай керамікі. Пры раскопках гарадзішча археолаг А.А.Егарэйчанка сабраў цікавы рэчавы матэрыял, які шмат можа расказаць пра жыццё і побыт гэтага старажытнага паселішча і яго насельнікаў. Ды яшчэ Лакнея засталася, як маўклівы відавочца іх поспехаў і няўдач, шчасця і гора: не раскажа яна, адкуль прыйшлі тыя людзі і як скончылі свой век на гэтай зямлі.

Паходжанне назвы ракі — Лакнея — і яе першапачатковае значэнне губляюцца ў смузе стагоддзяў. На гэты конт ёсць некалькі меркаванняў: першае — назва ракі прыйшла да нас з Прыбалтыкі, другое — гідронім (назва воднага аб"екта) Лакнея — славянскага паходжання ад слова «локаць» у значэнні «выгіб, паварот ракі, дарогі». Але ёсць і яшчэ адзін варыянт паходжання гэтай назвы.

Нагадаю, што ў пачатку сваёй летапіснай гісторыі Случчына ўваходзіла ў склад Тураўскай зямлі. Крыху пазней, з пачатку XIY стагоддзя, уладанні слуцкіх князёў ахаплівалі тэрыторыю сучасных Слуцкага, Капыльскага, Любанскага, Салігорскага, Старадарожскага і часткі Уздзенскага, Глускага, Петрыкаўскага і Жыткавіцкага раёнаў. Дык вось, на поўдні гэтай мясцовасці здаўна ўжываецца слова «лакно». Яно мае два значэнні: месца ў рачной старыцы, якое зарасло травой; глыбокае месца сярод багны, балота, дзе вада не замярзае. Калі ж прыпомніць сведчанне гістарычных крыніц аб балоцістым характары мясцовасці тагачаснай Случчыны, то сувязь гідроніма Лакнея са словам «лакно» становіцца відавочнай. Вядома, з улікам таго, што прыродны ландшафт з цягам часу даволі значна мяняецца, асабліва ў выніку дзейнасці чалавека.

Шосты том Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, выдадзены ў 1972 годзе, так характарызуе вадазбор Лакнеі: «слабахвалістая раўніна, значна забалочаная, парэзаная асушальнымі канавамі». Прайшло ўсяго дваццаць два гады, а што мы бачым? Сапраўды, раўніна з мноствам канаў, але прайдзіце па ўсёй рацэ і амаль не знойдзеце прыкмет былых балот. Як не ўбачыце і ранейшага рэчышча Лакнеі, якое зараз скрозь каналізавана і ўжо не мае былой прыгажосці. Калі ж да гэтага дадаць, што рэчышча не заўсёды своечасова ачышчаецца ад расліннасці, што вада забруджваецца рознымі сцёкамі, то малюнак, згадзіцеся, бачыцца не вельмі прывабным. Я ўжо не кажу пра тое, каб паласавацца рыбкай, злоўленай у Лакнеі. А было ж і гэта, было...

Адным словам, нялёгкі лёс выпаў Лакнеі, як, дарэчы, і іншым малым рэкам. А менавіта ж яны разам з такімі блакітнымі «артэрыямі», як Нёман, Свіслач, Днепр, ствараюць непаўторную прыгажосць нашага роднага краю. Дык ці маем мы права забываць пра гэта?

*Анатоль ЖУК.*
*г.Слуцк.*

■ Вось так і жывём

# ...ЯК ЗЕБРА, ПАЛАСАТАЕ

**У кватэры маёй суседкі Жанны пастаянна гучалі звонкія дзіцячыя галасы і смех, на ўсю моц кіпела жыццё... Міжволі складвалася ўражанне, што тут жыве па-сапраўднаму шчаслівая сям"я. Аднак расказаная аднойчы ў парыве шчырасці гісторыя жыцця гэтай маладой, прывабнай жанчыны прымусіла змяніць сваю першапачатковую думку.**

Першы раз замуж Жанна выйшла ў юным узросце. Ужо вельмі прыглянуўся ёй цемнавокі прыгажун Салім, які прыехаў з далёкай Кубы вучыцца ў ваенна-палітычным вучылішчы. Яе бацькам неўзабаве стала вядома пра дружбу дачкі з іншаземцам. Яны не надта адабралі яе выбар, але ж, як гаворыцца, сэрцу не загадаеш... Дзяўчына не прыслухалася да перасцярог, і неўзабаве падалі заяву ў ЗАГС.

Вяселле маладыя справілі яркае, запамінальнае. На першым часе ў сям"і Жанны і Саліма панавалі мір і згода. Але хутка юная жонка падарыла любячаму мужу дачку Аксану, а потым і нашчадка — Сяргея. Смуглатварых, цемнавокіх — акурат у бацьку. Аднак здарылася так, што з гадамі бязвоблачнае жыццё маладой сям"і дало трэшчыну.

Таму пасля заканчэння ваеннага вучылішча прыгажун Салім уплыў на далёкую радзіму, забраўшы з сабой масу прыемных уражанняў аб гасціннай беларускай зямлі і пакінутай тут жонцы з дзецьмі. Добра, што хоць у райвыканкоме пайшлі насустрач маладой жанчыне — выдзелілі аднапакаёвую кватэру. Хаця і дваццаціметровую "хрушчоўку" з сумешчаным санвузлом, затое сваю, асобную.

І пацякло аднастайнае жыццё — дом, дзеці, работа... Карміць сына з дачкой Жанне даводзілася адной. Самі разумееце, аліменты з Кубы ў Саюз не вышлеш. Добра яшчэ, што хоць маці з вёскі крыху дапамагала прадуктамі, а то проста бяда была б! Трэба зазначыць, Салім яшчэ некаторы час спадзяваўся, што сям"я пераедзе да яго зусім. Жанна і сапраўды некалькі разоў пабывала ў мужа ў гасцях. Паглядзела далёкую краіну, паспытала экзатычных фруктаў, а заадно прывезла такога-сякога тавару на продаж і падарункі ад бацькі дзецям.

Мінула некалькі гадоў. І ўвесь гэты час Жанна не страчвала надзеі на лепшую долю. Калі падраслі дзеці, маладая жанчына сустрэла цікавага чалавека. Дзмітрый працаваў барменам у адным з прэстыжных гасцінічных рэстаранаў Мінска. І яго зусім не збянтэжыла тая акалічнасць, што ў новай знаёмай двое дзяцей. Для яго намнога важней былі шчырыя пачуцці да Жанны. Так у Аксаны і Сяргея з"явіўся новы бацька. А неўзабаве ў іх сям"і здарылася прыбаўленне — на свет з"явілася цудоўная Марыначка. У выніку ў "хрушчоўцы" стала жыць пяць чалавек.

"Хіба ў такіх умовах можна існаваць?" — спытаюць чытачы. Скарыстаўшы свой новы статус мнагадзетнай маці, Жанна адправілася ў райвыканком "выбіваць" кватэру.

У аддзеле па размеркаванню жылой плошчы маладую жанчыну ўважліва выслухалі. Паспачувалі яе гору і параілі напісаць заяву. Адным словам, стаць у чаргу на атрыманне кааператыўнай кватэры, таму што на дзяржаўнае жыллё была чарга на многія гады наперад... А што яшчэ заставалася рабіць? Жанна крыху падумала і згадзілася.

Усё, як гаворыцца, добра, ды вось загваздка — грошы. Скажыце, дзе ўзяць патрабуемую для першага ўзносу суму: працаваў жа адзін Дзмітрый, а Жанна сядзела ў дэкрэтным водпуску з маленькай. Дзякуй добрым людзям, падказалі: уладкавацца Дзіму ў замежнае плаванне. Так і зрабілі. Некалькі сезонаў адпрацаваў ён барменам на чарнаморскім лайнеры. Грошай падзарабіў, прыгнаў у Мінск патрыманую іншамарку.

Аднак ішоў час, а наваселлем і не пахла. Зусім змучыўшыся ў цеснаце, мая суседка пайшла на вымушаны варыянт. Здала часова сваю кватэру, а сама на гэтыя грошы зняла двухпакаёвую. Пасля пераезду на новае месца сям"і стала намнога лягчэй дыхаць. Усё быццам бы наладзілася. Дзіма ўладкаваўся працаваць на ранейшае месца, а Жанна займалася выхаваннем дзяцей.

Аднак людзі правільна кажуць: бяда не ходзіць адна. Напярэдадні жніўня 91-га здарылася чарговая непрыемнасць. У вясковай глыбінцы цяжка захварэў 86-гадовы дзед Жанны, а са сваякоў блізка нікога больш не было. Што рабіць? На сямейнай нарадзе вырашылі, што трэба яго забіраць. Даглядаць жа ветэрана камусьці трэба. Так іх стала шасцёра, па дакументах усё ў той жа аднапакаёвай "хрушчоўцы".

У сям"і з"явілася дадатковая льгота — на яе плошчы прапісаны ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Аднак гэта, падобна, мала каго хвалявала, акрамя Жанны з сям"ёй. Аб гэтым адкрыта сказалі ў час чарговага візіту ў райвыканком. Маўляў, хто гэтыя льготы ўстанаўліваў? Ах, Кебіч? Вось няхай ён вам асабіста кватэру і выдзяляе!.. У рэшце рэшт крыху заспакоілі і запэўнілі, што памятаюць і дапамогуць пры магчымасці.

Нічога не скажаш, і сапраўды "не забыліся". Неўзабаве з"явілася з райвыканкома строгая камісія, каб абследаваць жыллёвыя ўмовы мнагадзетнай сям"і. А іх там сустрэлі не папярэджаныя аб магчымай праверцы кватаранты... Высветліўшы, што сама гаспадыня пражывае ў іншым месцы, выканкомаўскія чыноўнікі пайшлі задаволеныя. Яшчэ б, яны не чакалі падобнага "выкрыцця"! Сваю кватэру камусьці здае, а сама жыве ў двухпакаёвай. І пры гэтым яшчэ хапае нахабнасці скардзіцца на цяжкае жыццё.

Калі Жанна даведалася аб тым, што здарылася, па тэлефоне, то адразу ж кінулася ратаваць сітуацыю. Аднак было ўжо вельмі позна. "Калі хочаш атрымаць жыллё, то перабірайся назад!" — ашаламілі бедную жанчыну. Жанна спрабавала растлумачыць, выклікаць спагаду, ды дзе там... Усім, значыць, павінна быць дрэнна, а табе адной добра? — прыкладна так гучалі довады работнікаў выканкома. Давялося выганяць кватарантаў і перабірацца назад.

— Вось так мы і жывём, — завяршыла свой невясёлы расказ мая суседка. — А надзеі мы ўсё ж не страчваем. Цяпер вось абмянялі сваю машыну на дом у вёсцы. Летам там з дзецьмі як на дачы пажывём.

"Так, сапраўды, наша жыццё— як зебра паласатае! — падумалася мне. — Толькі чамусьці чорных палос у ім намнога больш, чым светлых..." А з чаго, уласна, усё пачалося? Рана выйшла замуж? А, можа, і сапраўды, дзяўчаты, не хадзілі б вы замуж ... за іншаземцаў! Няўжо сваіх, беларускіх хлопцаў не хапае? Глядзіш, і складанасцей у жыцці было б менш. А салодкае заморскае жыццё, — яно толькі ў песнях і кінафільмах прыгожае.

*А.СІБІРСКІ.*

■ Конкурсы

# ФАНТАЗІІ КАРАЛЕЎСКАЙ КУХНІ

У Крупках пры цэнтральным рэстаране прайшоў 21 абласны конкурс-семінар повараў, кандытараў, афіцыянтаў спажывецкай кааперацыі. Першы дзень вызначаў лепшых сярод повараў. Праявіўшы высокае майстэрства і бліснуўшы якасцю прыгатавання страў, дзяўчаты, думаю, змаглі знайсці сцяжынку да сэрцаў членаў кампетэнтнага журы, якія, без сумнення, атрымалі задавальненне ад саўдзелу. Заінтрыгаваўшы маладых работнікаў грамадскага харчавання прадстаячым толькі на будучы дзень апавяшчэннем тытульнага спіса пераможцаў, журы знікла за зачыненымі дзвярыма.

Дзень другі. Перакуліўшы па дарозе бакальчык свежага... квасу, я накіраваўся ў рэстаран, каб стаць сведкай высокай культуры абслугоўвання афіцыянтамі і заваструць увагу на разнастайнасці кандытарскіх вырабаў.

...Перад членамі журыаддрукаваныя лісты з ацэнкамі ўдзельнікаў конкурсу. Калі ўзяць на ўвагу той факт, што памятнымі прызамі заахвочаны ўсе канкурсанты, то і на вышыні былі ўсе. Але ж лепшыя паказчыкі ў пасланцоў Лагойскага раёна, якія занялі большую колькасць прызавых месцаў.

Невялікія, але шумныя Крупкі адважыліся "ўзваліць" на сябе ўсе клопаты па падрыхтоўцы свята маладых дызайнераў аблпрамхарчу, спадзяючыся толькі на падзякі прысутных і гасцей. І не прагадалі: цёплых, шчырых слоў у адрас мясцовага райспажыўсаюза было выказана з ліхвой.

НА ЗДЫМКУ: у час конкурсу.

*Тэкст і фота*
*В. АПАЛІНСКАГА.*

■ Просьба-зварот

## ДАПАМАЖЫЦЕ МІКАЛАЕЎШЧЫНСКІМ ВЕРНІКАМ

У вёсцы Мікалаеўшчына, што ў Стаўбцоўскім раёне, некалі стаяла прыгожая царква. Тут маліліся, спавядаліся і прычашчаліся набожныя людзі. Тут хрысцілі дзяцей і адпявалі нябожчыкаў. Царква, благаслаўлёная Богам, працавала на людзей. У 1965 годзе ваяўнічыя атэісты разбурылі Божы храм. З таго часу і па сённяшні дзень мікалаеўцы-вернікі вымушаны ездзіць у Стоўбцы, дзе царква захавалася. Гэта і няблізка, і нязручна, асабліва цяжка дабірацца ў раённы цэнтр пажылым людзям.

І вось жыхары Мікалаеўшчыны і навакольных вёсак вырашылі адрадзіць царкву: пабудаваць на старым месцы — новую, Свята-Мікалаеўшчынскую царкву. Ужо шмат зроблена.

На ахвяраваныя добрымі людзьмі грошы закуплены будаўнічы матэрыял — лес, цэгла, дах. Ёсць майстры, якія гатовы ўзяцца за добрую справу. Аднак сабраных сродкаў не хапае, каб закончыць будаўніцтва царквы. Мікалаеўшчынскія вернікі звяртаюцца да ўсіх, хто верыць у Бога і мае добрае, спагаднае сэрца: ДАПАМАЖЫЦЕ! У імя продкаў, якія жылі і паміралі з Богам у сэрцы. У імя жывых, якія хочуць сустракацца з Богам у сваім храме. У імя нашчадкаў, якія прыйдуць да Бога заўтра.

Грашовыя ахвяраванні дасылайце на адрас:

Мінская вобласць, г.Стоўбцы, Аграпрамбанк /АПБ/, Разліковы рахунак 701706. На будаўніцтва Свята-Мікалаеўшчынскай царквы.

■ Сярод кніг

# *Ад ялавічыны па-гусарску да мазгоў запечаных*

З даўніх часоў на тэрыторыі нашай рэспублікі жывуць рускія, украінцы, палякі, літоўцы, яўрэі, татары і інш. Агульны лёс зрадніў іх. Чым могуць дапамагаюць адзін аднаму. А радасныя падзеі нярэдка адзначаюць за сумесным сталом, на які выстаўляюцца беларускія дранікі і рускія пірагі, украінскія галушкі і польскія лазанкі, літоўскі кумпіс, яўрэйская фаршыраваная рыба, азу па-татарску. Вядома, што ў кожнага народа свая нацыянальная кухня з уласцівым ёй наборам прадуктаў, прыёмамі іх апрацоўкі. Прыгатаваць такія стравы вам дапаможа кніга "Пакаштуйце — смачна", якая нядаўна ўбачыла свет у выдавецтве "Полымя". Яе аўтары Тамара і Уладзімір Рэутовічы ўключылі ў выданне больш за 750 рэцэптаў прыгатавання традыцыйных страў. Сярод іх ёсць і старадаўнія, і сучасныя, створаныя прафесійнымі кулінарамі. Рэцэпты страў у асноўным разлічаны на чатырох чалавек, у адпаведнасці з гэтым указваецца колькасць прадуктаў.

Найбольш поўна прадстаўлены раздзел "Беларуская кухня". Знаёмства з ім сведчыць аб рацыянальнасці, эканамічнасці і разнастайнасці харчавання нашых продкаў, аб вынаходлівасці сучасных прафесійных кулінараў, якім у сённяшнім эканамічным бязладдзі ўсё цяжэй працаваць. Але і ў такіх умовах яны ўзбагачаюць меню арыгінальнымі стравамі, якія набываюць вялікую папулярнасць у жыхароў і гасцей нашай рэспублікі.

Рэцэпты яўрэйскай кухні, як адзначаецца ў гэтым выданні, у Беларусі ніколі не збіраліся і не выдаваліся. На гэты раз складальнікі кнігі сабралі больш за сто тэхналогій прыгатавання нацыянальных яўрэйскіх страў.

Выдатнымі смакавымі якасцямі і арыгінальнасцю вызначаецца нацыянальная татарская кухня. У гэтым чытач пераканаецца, калі прыгатуе стравы па рэцэптах, прапанаваных аўтарамі выдання.

*Уладзімір ВЕРАСКОЎ.*

# ЯДЕРНАЯ ЭНЕРГИЯ И ОБЩЕСТВЕННОЕ МНЕНИЕ

Проблемы энергообеспечения Беларуси в последнее время выдвигаются в ряд наиболее важных. Возрастающая зависимость экономики республики от импорта энергоисточников ставит под угрозу развитие народного хозяйства, вызывает социальную напряженность, затрудняет проведение реформ. В качестве одного из возможных путей решения этой проблемы рассматривается атомная энергетика. Однако тяжелые последствия для Беларуси от катастрофы на ЧАЭС в значительной мере определяют негативное отношение к АЭС со стороны населения.

В связи с этим именно в Беларуси особое значение при принятии решений в области ядерной энергетики должно играть общественное мнение. Прошли те времена, когда строительство какого-либо объекта на территории республики осуществлялось без учета мнения населения, келейно, зачастую в условиях повышенной секретности.

Мировой опыт показал, что открытость обсуждения, доступность и полнота информации, с одной стороны, заставляют специалистов требовательнее относиться к выполняемым разработкам тех или иных проектов, а с другой — позволяют общественности влиять на принятие решения и делать свой выбор.

Руководители ядерной энергетики многих стран пришли к единодушному выводу, что именно общественное мнение, а не технические или экономические вопросы будут определять развитие ядерной энергетики в следующем веке.

По этим причинам представляет интерес проблема: как относится население различных стран к атомным станциям и к перспективе их дальнейшего развития? Предваряя предлагаемый обзор социологических исследований в мире за 1992 год, хотелось бы подчеркнуть следующее:

— неоднозначность отношения общественности к ядерной энергетике в мире (от полного признания до категорического отказа) в огромной степени зависит от конкретных условий данного государства, от степени обеспеченности его другими энергоисточниками, баланса производства и потребления энергии, структуры ее потребления, климатических особенностей и т.д. Например, в США, где около трети электростанций находятся в резерве, на душу населения производится электроэнергии больше, чем для большинства стран мира. Там вопрос о строительстве новых АЭС не является актуальным. Основные усилия направлены на разработку и создание новых реакторов повышенной безопасности, на решение проблемы захоронения радиоактивных отходов. Ведется интенсивный поиск альтернативных источников энергии. Или, например, особые условия Норвегии, где практически вся электроэнергия вырабатывается на гидростанциях, не требуют каких-либо других энергоисточников;

— в большинстве развитых стран мира, где проводились социологические исследования, нет такого дефицита производства энергии, как в Беларуси. Ядерная энергетика у них играет заметную роль (например, до 75% электроэнергии производится на АЭС во Франции) и речь в основном идет о том, строить или не строить новые станции. Практически во всех странах с развитой энергетикой вопрос о закрытии АЭС раньше окончания срока их эксплуатации не стоит;

— общая тенденция отношения к ядерной энергетике после катастрофы на ЧАЭС такова: шок постепенно проходит, и АЭС доказывают свое право на существование.

*А.СТАВРОВ, директор республиканского научно-учебного и информационного центра.*

